скім окрузі (ў Лідчыне) аткрываюцца ўсё новые і новые беларускіе школы. выяўляецца вялікая партэба беларускіх вучыцелёў. Апошнімі днямі ў Вільню паступіў рад запросоў аб вучыцелёў-беларусоў.

Трэба думаць, што наладжэная ў Сьвіслочы вучыцельская сэмінарыя паможэ здаволіць узрастаючую патрэбу беларускіх вучыцельскіх сіл, бо віленскіе курсы ледзьве могуць здаволіваць патрэбы найбліжэйшых ваколіц.

× **Кніжкі для школ.** Сьледам за «Pieršaj Čytankaj» ужо друкуецца кніжка да чытаньня для старшых дзяцей — «Rodnyje Zierniaty». Разам с «Pieršaj Čytankaj» яна выстарчыць для пачатковых школ на тры гады навукі.

Адначасьне друкуецца задачнік для 2 і 3 году навукі.

× **У «Райніцы»**. У нядзелю, 8 кастрычніка, адбыўся агульны сход беларускай коопэратывы «Райніца». Справоздачу дамо ў чародным нумэры.

× **Выстаўка работных дамоў.** Выстаўка цяпер адчынена кожын дзень ад 10 гадзіны раніцай да 10 вечэра.

× **У жыдоўскай народнай страўні** пры Кіеўскай вул. у верасьні выдано 28.540 порцій зупы, ў тым ліку 1350 — без ніякай платы.

× **Права на таргоўлю прадуктамі.** Кожын, хто а) занімаецца закупкай прадуктаў дзеля перэпрадажы і б) хто занімаецца прадажай іх людзям да ужытку, павінен мець на пісьме пазваленьне Stadthauptmann'a.

× **Недастачы селядцоў**, катороя выяўлялася у апошнім часі, больш ня будзе, дзякуючы таму, што падвозіцца значны запас салёнай і сушэнай рыбы, катороя прадаецца на рыбным рынку.

× **Прадажа скуры.** Са складу тавароў пры Граданачальстве болей-меней цераз 8 дзён будуць прадаваць скуру.

× **Коўдры с паперы.** Дзеля вырабу коўдар можна ужываць старую газэтную паперу. Газетную паперу раскладываюць між дзьвема прастынямі ў чым большым чысьле лістоў, і ўсё гэта сшываюць на скорую руку. Гэтак сама можна зрабіць больш цёплымі ценкіе летніе коўдры.

× **Курс рубля:** офіцыальны — 1 м. 90 фэн. за рубель; ў банках пры прадажы — 1 м. 93 ф., пры куплі—1 м. 97 ф.;

Пазычковая каса бярэ 6%.

## З усяго Краю.

**Падпіска на ваенную пазыку.**

КОЎНА. Абодвы тутейшые нямецкіе банкі прынялі падпіску на 5-ю пазыку агулам больш, як на мільён марак.

ПЛЯНТЫ. На нямецкую ваенную пазыку падпісаліся тут на 7200 марак.

**Розные весткі.**

БЕЛАСТОК. Тут ізноў аб'явіліся фальшывые двохмаркоўкі. Яны ня маюць празрыстай сеткі і клейма.

Крымінальная паліцыя арэштавала на вуліцы двох людзей са сьвежай валовай скурай. У іх зрабілі обыск і знайшлі 90 валовых скур і 10 авечых, каторые ўсе сконфіскованы.

× **Апавешчэньне.** П. Глаўнакамандуючый Арміей у месяцу верэсьні налажыў контрыбуцію на ніжэйпісаные сельскіе грамады у этапнай тэрыторыі:

1) на грамаду Поровсе, Вількавіскаго павету,—1000 м. за укрываньне расейскіх ваенных.

2) на грамаду Барце, Сэйненскаго павету,—1.500 м. за укрываньне расейскіх ваенных і за тое, што пры гэтай вёсцы была забіта цывільная асоба, і ёсць падазрэньне, што вінавайца належыць да тэй грамады.

3) на грамаду Піявнэ Польске, Аўгустоўскаго павету, — 5.000 м. за тое, што ў межах гэтай грамады спалены запасы ўраджаю, трэба думаць, замысьля, а вінаватаго дайсьці не было магчымасьці.

Вільна, 4 кастрычніка 1916 г.

Der Etappen-Inspekteur
падп. **Мадлюнг,**
Generalleutnant

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

### „Там лепей."

Калі ў нас кепска, дык нам заўсёды здаецца, што ў іншых мейсцох павінна быць лепей. І гэта думка, каторая, папраўдзі кажучы, ня мае пад сабой ніякаго грунту, апрыч нездавольства тым, што маем у сябе, — страшэньне крэпка засела ў людзкіх галовах.

Асабліва ярка выяўляецца яна у нас цяпер с прычыны тых страшэнных ціжароў, якіе ускладае на нас вайна і блізкае суседзтво ваеннаго фронту. І калі ў нас нехватае таго або іншаго, дык вочы людзей звертаюцца на Ўсход, і гэтак часта пачуеш уздыханьня: «ах, там—у Расеі—ёсць даволі і хлеба, і мяса, і цукру»...

Што на бязмежных абшарах Расеі заўсёды было многа хлеба і іншых прадуктоў, што Расея іх прадавала тэй самай Нямеччыне, с каторай цяпер ваюе,—гэта вядома ўсім. Але вядома і тое, што Расея на ўвесь сьвет слыве сваім безладзьдзем і становіць рэзкі контраст з Нямеччынай, каторая слыве сваей незвычайнай організованнасьцю. І паглядзіце, што сталося з абедзьвымі старонкамі пасьля двох гадоў страшэннаго змаганьня, зусім перэйначыўшаго нормальны ход жыцьця.

У № 174 «Русск. Слова» надрукована была стацьця Мурова пад загалоўкам: «За два гады».

Агледаючыся назад—на тые два гады вайны, што ўжо мінулі, аўтор стацьці робіць сумны вывод: у Расеі нехватае організацыі, правіцельство ня верыць свайму-ж грамадзянству, не дапускае да кіраваньня дзержаўным жыцьцём. За ўсю Расею развязываюць усе справы міністры і іх памочнікі, ды на народ, на грамадзянство ніякай увагі не звертаюць. Губэрнатары і іншые чыноўнікі гаспадараць у сваіх губэрнях, як самі хочуць, а калі і пытаюцца ў каго рады, дык за райчых выбіраюць толькі вялікшых паноў, не агледаючыся на работніцкіе організацыі, коопэратывы і т. д. Вось,—пішэ Муров,— гісторыя першых двох гадоў вайны і паказала нікчэмнасьць царскай гаспадаркі. Кожын крок быў або лішне позны, або яго праводзілі няпоўна. З гэтай прычыны расла і пачала ўсё болей узрастаць дарагоўля, а правіцельство не рабіло нічога насупроць гэтаго, а толькі «адмечало» самы факт.

Мы ўжо не раз друкавалі, якіе цэны стаялі за апошні час у Расеі на розные прадукты, і мы ня будзем памешчаць цыфр, дадзеных Муровым. Прыводзім тут толькі таблічку Мурова, каторая паказвае, на сколькі працэнтоў проці нормальных цэн (у спакойным часі) узрасьлі цяпер цэны у сталіцах дзьвех ваюючых дзержаў: у Бэрліне і ў Маскве:

| | ў Бэрліне: | ў Маскве: |
|---|---|---|
| хлеб жытні | 42% | 43% |
| пшонны хлеб | 27 „ | 45 „ |
| жытняя мука | 47 „ | 95 „ |
| пшонная „ | 14 „ | 58 „ |
| масло | 114 „ | 123 „ |
| цукер | 27 „ | 57 „ |
| кава | 133 „ | 180 „ |
| малако | 33 „ | 70 „ |
| валовіна | 230 „ | 250 „ |
| бараніна | 180 „ | 281 „ |
| целяціна | 170 „ | 234 „ |
| сьвініна | 114 „ | 142 „ |

Гэты дзіўны на першы пагляд факт Муров тлумачыць тым, што ў Нямеччыне ўмеюць добра вясьці спажыўные справы, ды там карысць грамадзянства і дзержавы стаўляюць вышэй за інтэрэсы памешчыкоў. У Нямеччыне ёсць моцна организованая дэмократыя. У Нямеччыне—культурные і організованые народные массы, і націск волі народу у справе карменьня ўсіх паніжае цэны на найбольш патрэбные для народу прадукты.

«А ў нас—кажэ Муров—наадварот. Бо ў Расеі народ неорганізованы, яго ніхто ня слухае, а ўсё дзержуць у сваіх руках міністры, капіталісты і вялікіе паны, каторые рупяцца толькі аб сваю кішэнь і аб тое, каб чымбольм здзерці з народу за час вайны».

Так малюе палажэньне ў Расеі расейская газэта. І яно ня гэткае рожэвае, каб уздыхаць, гледзючы на Усход...

**„Сьвятая вайна" ў Пэрсіі.**

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. 5. X. У Пэрсіі бахтіары паднялі „сьвятую вайну" проці Расеі. Место Іспагань яны вызвалілі ад ворагоў. Пры Бітшары (110 кілёметроў на паўночным заходзі ад Гамадана) расейцы зусім разбіты і ўцякаюць.

**Аб палажэнні на фронці.**

ПЕЦЯРБУРГ. Поў-офіцыознае апавешчэньне асьцерэгае публіку, каб не спадзевалася на быстры ход прыпадкоў на Валыні і ў Галічыне. За кожын мэтр ідзе змаганьне Калі таго вымагае карысць саюзьнікоў на другіх фронтах, дык расейцы, ня гледзячы ні на якіе страты, будуць энэргічна вясьці бітвы на Валыні, ў Галічыне і ў лясістых Карпатах. За тое ждуць скорых і station ўчых удач на Балканах.

**Нямецкі налёт.**

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нямецкіе лятучые сілы 5 кастрычніка удачна атакавалі ў Чорным моры, на заходзі ад Тузлы, расейскіе транспорты.

**Цікавы прыказ.**

ШТОКГОЛЬМ. У прыказе глаўнакамандуючаго на расейскім палудзенна-заходнім фронці гаворыцца, што ваенные ўсё часьцей глядзяць на ваеннае аружжэ, як на сваё ўласнае дабро, і прадаюць яго дзеля заработку. Салдаты, едучы да хаты на пабыўку, забіраюць с сабой патроны і прадаюць іх у вялікіх гарадох фабрыкам ваенных матэр'ялоў. Обыскі рэчэй салдатоў, ехаўшых на пабыўку, выкрылі ў Кіеві 1137 стрэльб, 434 карабіны, 131 шаблю, 241 штык, 12 рэвальвэроў, 219 вінтовачных станкоў. 23357 патронаў, 13 шрапнэлей, 9 кулемётных устужэк, 45 бомб і вельмі многа нікелёванай сталі. Часта салдаты змаўляюцца і акуратна адсылаюць ваенные матэр'ялы расейскім пастаўшчыкам амуніцыі. У прыказе загадано акуратна агледаць рэчы ўсіх ваенных, якіе едуць с фронту, ў тым ліку афіцэроў, ня гледзячы на іх чын.

**Сухомліноў зноў на волі!**

ВЕНА. „N. Fr. Presse" даносіць с Пецярбурга, што быўшы ваенны міністэр, Сухомлінов, выпушчэн с турмы „с прычыны хваробы".

**«Расейска-жыдоўскіе легіоны».**

ШТОКГОЛЬМ. Жаботінскій, каторы набірае расейска-жыдоўскі легіон у Лёндоні, 10 гадоў таму назад быў рэволюцыонерам. Калі революцію затушылі, ён стаўся сыоністам і быў выслан з Расеі. У пачатку сусьветнай вайны ён суліў свае услугі ў Парыжы і Лондоні і занімаўся ў Копэнгазі цёмнымі палітычнымі афэрамі. Цяпер з вялікімі грашмі ён аб'явіўся ў Лондоне і набірае тут расейска-жыдоўскі легіон для Англіі. Ня гледзячы на вялікіе затраты, яму ўдалося набраць дагэтуль усяго 68 легіонероў.

**Жаданьня грамадзкаго дагляду.**

ШТОКГОЛЬМ. „День" жадае, каб была наладжэна экономічная камісія пры саюзі мест і ўраз жэ установлено цэнтральнае таварыство дзеля закупоў для ўсяе Расеі паводлуг заграцічнаго прыкладу.

**Чысло высяленцоў.**

ПЕЦЯРБУРГ. Чысло запісаных у офіцыальные расейскіе спісы ўцекачоў даходзіць 3,074,896 душ.

**Конфіскація нямецкіх зямель.**

ПЕЦЯРБУРГ. „Нов. Вр." пішэ, што ў аднэй толькі Кацерынаслаўскай губэрні адабралі ад колёністоў больш за 90.000 дзесяцін зямлі. У Одэскім павеці конфіскуецца земля ў цэлых сельскіх грамад, напрыклад, Нэўзац і Александэрфэльд.

**Развод.**

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). Цар зацьвярдзіў развод вялікай княгіні Ольгі Александроўны з гэрцогам Пятром Ольдэнбурскім.

## З усяго сьвету.

**Чаму забілі Жорэса?**

ПАРЫЖ. Між паперамі Жорэса знайшлі пісьмо да Вандэрвэльдэ с 30 ліпня 1914 году, ў каторым сказано: „Тут, у Франціі, працуюць пры помачы ўселякіх гвалтоў дзеля вайны, — каб здаволіць нікчэмные жаданьня і дзеля спэкуляцій парыжскай і лондонскай

